№. 3-4. Цана 50 гр.



# Вучнёўскі Звон

Год выданьня II.

Сакавік-Красавік 1930.

# ВУЧНЁЎСКІ ЗВОН

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ВУЧНЁЎСКАЙ МОЛАДЗІ ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9.

Год II. Сакавік-Красавік 1930 г. № 3-4


## 25. III. 1918—25. III. 1930



Дванаццаць гадоў мінула ад таго мамэнту, калі наш беларускі народ абвесьціў незалежнасьць свайго краю, як самастойнае палітычна-нацыянальнае адзінкі. Дваццаць пяць гадоў назад беларуская палітычная думка толькі будзілася й шукала шляхоў для разьвязаньня праблемы беларускага сацыяльна-нацыянальнага пытаньня. Шыбкі ўзрост беларускага руху, які перакінуўся ў народныя масы, асабліва пасьля расейскай рэвалюцыі 1917 г., адзначыўся й шыбкім разьвіцьцём беларускае палітычнае думкі. Калі раней ставілася пытаньне аб аўтаноміі Беларусі, то цяпер сам народ 25-га сакавіка 1918 г. праз сваіх прадстаўнікоў выразіў волю да самастойнага, незалежнага будаваньня сваёй дзяржаўнасьці. Гэты факт вялікага значэньня для нас. Ён паказывае, што наш народ ужо прабудзіўся да свядомага нацыянальнага жыцьця й будзе няўстрыманым, пераможным крокам ісьці да азначанага самім сабой ідэалу. Гэта паказывае, што наш нацыянальны адраджэнскі рух мае глыбокія падставы й жывую сілу, якая, раз прабудзіўшыся, ня згіне. Гэта паказывае, што народ наш мае невычэрпаныя,

творчыя магчымасьці, бо ў сваім адраджэнскім паходзе, з нябачанай у гісторыі вызваляючыхся народаў хуткасьцю, сягнуў да ідэалу незалежнасьці.

Беларуская моладзь, як актыўны элемэнт нашага народу, павінна ўявіць сабе ўсю важнасьць свайго заданьня ў 12-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Мэта яшчэ далёка. Ужо шмат сілаў патрачана ў працы й барацьбе за незалежнасьць бацькаўшчыны. Шмат магілаў стаіць на дарозе, якой ішоў беларускі народ. Шмат яшчэ трэба высілкаў і працы. Галоўнай крыніцай гэтых высілкаў і працы ёсьць — мы, моладзь. Яшчэ сягоньня, у школьных мурох, мы павінны здаць сабе справу, што па выхадзе з школы нас чакае праца для народу. Усе мы пераважна сыны вёскі, і сьвятым нашым абавязкам ёсьць праца для нашага народу. Хто як можа!

Наш народ кінуў кліч: „хочам самі жыць!“

Кліч гэты мы павінны падхапіць. Закончым словамі нашага маладога песьняра А. Бартуля:

Мы—водгалас руху, што край ахапіў.
Мы чуем, для вокліку хопіць нам сіл.
Мы—моладзь! — — — — —
— — — — — — — — — — —
Руху ідэі—нашы ідэі!
Да іх мы сягаем, поўны надзеі.
Хутчэй, брацьця, ўперад, хутчэй бяз упынку!
Пакуль не дасягнем, ня трэба спачынку!

# Калі сьвяткуецца Вялікдзень.

Сьвяткаваньне вялікадня так у жыдоў, як і ў хрысьціянскіх народаў зьвязана з рухам месяца навакол зямлі, ці, прасьцей кажучы, з веснавою поўняю. Ня могучы тут даць дэтальную апрацоўку гэтых аблічэньняў, якія пабудаваны на дакладных аблічэньнях руху месяца, бо яны былі-б зразумелы толькі для спэцыялістаў, пастараюся апісаць надта лёгкі й просты спосаб аблічыць дату, на якую прыпадае ў тым ці іншым годзе вялікдзень, спосаб, якім можна карыстацца кожнаму, хто ведае чатыры арытмэтычных дзеяньні.

Лічбу таго году, для якога хочам знайсьці дату вялікадня (напр. для 1930 году) трэба падзяліць перш на 19 і астачу азначыць напр. праз A; пасьля падзяліць тую самую лічбу году на 4 і астачу азначыць праз B, урэшце падзяліць яе на 7 і астачу азначыць праз C. Пасьля гэтага трэба першую астачу A памножыць на 19 і да множыва дадаць 15 (калі хочам знайсьці праваслаўны вялікдзень), або 24 (калі хочам знайсьці каталіцкі ці пратастанскі вял.). Атрыманую такім чынам суму (A. 19 + 15) ці (A. 19 + 25) трэба падзяліць на 30, а астачу, якая пры гэтым атрымаецца, азначым праз літ. D; наступна трэба да сумы 2B + 4C + 6D дадаць лічбу 6 (калі знаходз. праваcл.) або 5 (калі знаходз. кат.-пратаст.) і атрыманую новую суму падзяліць на 7, азначаючы апошнюю астачу праз E. Лічба 22 + D + E дасьць нам дату мес. сакавіка, або красавіка, на якую ў гэтым годзе прыпадае той ці іншы (правасл. ці катал.) вялікдзень.

Прыклад: Аблічэньне для 1930 г.

Лічба 1930 падзеленая на 19 дае (ў дзелі 101*) ў аст. 11=A
„ 1930 „ „ 4 „ ( „ 482 ) „ 2=B
„ 1930 „ „ 5 „ ( „ 275 ) „ 5=C

Лічба A памножаная на 19 роўна (11 . 19) = 209. Дадаўшы да гэтае лічбы 209 лічбу 15, атрымаем (209 + 15) = 224, а падзяліўшы апошнюю на 30 атрымаем (у дзелі 7), а ў астачы 14, якую і азначаем праз D (14 = D). Цяпер, аблічыўшы суму (2B + 4C + 6D) = 2 . 2 + 4 . 5 + 6 . 14 = 4 + 20 + 84, атрымаем 108. Дадаўшы да 108 лічбу 6 атрымаем 114, а падзяліўшы апошнюю на 7 будзем мець (у дзелі 16), а ў астачы 2. Гэтую апошнюю астачу і азначаем літ E. (E = 2).

---

*) Тут дзель нас зусім ня цікавіць

Цяпер застаецца толькі ў аканчальнай формуле (22+D+E) падставіць замест літ. D і E адпаведныя ім лічбы: замест D—14 і замест E—2 і аканчальна будзем мець 22+14+2=38. Прыймаючы пад увагу, што 38-га сакавіка быць ня можа, дык гэта будзе (38 — 31) = 7 красавіка (бо сакавік мае 31 дзень) па стараму стылю, а па новаму гэта будзе (7+13)= 20 красавіка.

Такім чынам праваслаўны вялікдзень у 1930 г. прыпадае на 7 красавіка па старому ці на 20 па новаму стылю.

Пры аблічэньні даты каталіцкага й пратастанскага вялікадня трэба, як ужо зазначылі вышэй, да атрыманае лічбы 209 дадаць 24 (а не 15). Атрымануюю такім чынам лічбу 233 = (209 + 24) дзелім на 30 і атрымоўваем (у дзелі 7), а ў астачы 23; астачу гэтую (23) азначаем таксама праз літ. D. Далей у папярэднюю формулу: 2B+4C+6D падстаўляем замест літ. B, C, D адпаведныя лічбы 2, 5 і 23, што нам дасьць лічбу (2 . 2 + 4 . 5 + 6 . 23) = 4 + 20 + 138) = 162. Дадаўшы наступна да гэтае лічбы 5 атрымаем 167, падзяліўшы, нарэшце, якую на 7, атрымаем (у дзелі 23), а ў астачы нуль. Значыць, у апошняй нашай формуле E будзе — 6, а аканчальна апошняя формула (22 + D + E) дадуць нам лічбу 22 + 23 + 6 = 51). Тут зноў-жа 51-га сакавіка ня бывае і дзеля гэтага адняўшы 31 атрымаем дату (51 — 31) = 20 красавіка, што будзе адпавядаць першаму дню каталіцкага ці пратэстанскага вялікадня па новаму стылю.

Вышэйазначаным спосабам можна аблічыць дзень (дату) сьвяткаваньня вялікадня на сотні гадоў наперад.

---

Увага. Пры аблічэньні сьвяткаваньня кат.-пратаст. вялікадня пасьля 2099 году прышлося-б зьмяніць лічбы 24 і 5, бо яны мяняюцца што 200 гадоў; для аблічэньняў-жа праваслаўнага вялікадня лічбы 15 і 6 застаюцца заўсёды сталымі.

**Авэ.**

Х. Ільляшэвіч

# Максім Багдановіч, як пясьняр места.

Максім Багдановіч займае зусім асобнае мейсца ў беларускай літэратуры. Калі яго сучасьнікі й папярэднікі — выхаджэнцы з вёскі, то ён перад усім дзіця места. М. Багдановіч амаль усё сваё кароткае жыцьцё правёў у месьце. Гэты факт вызначае кірунак яго творчасьці. Другая ня менш, калі ня больш, важная адрозьніваючая рыса Максіма Багдановіча, гэта — яго інтэлігэнцкае паходжаньне. М. Багдановіч інтэлігэнт да шпіка касьцей. Узрастаў ён і ўзгадоўваўся ў атмасфэры артызму й інтэлігэнцыі. У сярэдняй школе, а пасьля ў унівэрсытэце, Багдановіч мае найвялікшыя магчымасьці азнаямленьня з сусьветнай літэратурай. Якуб Колас, Янка Купала й іншыя нашы песьняры нашаніўскага пэрыаду разьвіваліся зусім інакш. Школай для іх было найчасьцей жорсткае жыцьцё, асьвету ім прыходзілася здабываць найчасьцей саматугам. Вось чаму ў Багдановіча эволюцыя творчасьці йдзе зусім іншымі шляхамі. У Якуба Коласа, у Янкі Купалы, у Цішкі Гартнага лейт-мотывамі зьяўляюцца соцыяльныя мотывы: нядоля, цемната сялянства, соцыяльная няроўнасьць. Максім Багдановіч — пявец перадусім красы. Ен як-бы з боку, няпрыкметна падходзіць да жыцьця і ўглядаецца задуменнымі вачыма ў прыроду, у людзей, у самае жыцьцё. І ўсюды ён робіць працэс адбору: адкідае луску й дабіраецца да самае істоты красы. Соцыяльныя мотывы ў творчасьці Багдановіча йстнуюць, але яны таксама йнакш выказаны, інакш адчуты. У „Краю мой родны“, у „Вы панове“, у „Зразаюць галіны таполі“, „Рушымся, брацьця, хутчэй“, „Устань навальніца“ і іншых — усё-ж мы бачым таго самага Багдановіча, які тварыў „Мадоннаў“. Максім Багдановіч праяўляе надзвычайнае багацьце тэмаў і мастацкіх спосабаў. Крыніцай, з якой чэрпае поўнай прыгаршняй Багдановіч, ёсьць места. У беларускай літэратуры да рэволюцыі 17 г. мястовыя мотывы зьяўляюцца рэдкасьцю. Цётка, Цішка Гартны, а перад імі ў пэўнай меры Багушэвіч, апісывалі ў некаторых творах места, аднак, места ў іх — „паміж іншым“. У Цішкі Гартнага места зьяўляецца толькі мейсцам, дзе гібее рамесьнік і рабочы; праца й змаганьне — галоўная асаблівасьць твораў Ц. Гартнага. У Цёткі тое самае. Багушэвіч-жа выводзіць места такім, якім яно прадстаў-

ляецца праз прызму сялянскага гледжаньня. У Багдановіча места жывое: яно гарыць „рэклямамі“, гудзіць рухам, дыхае „сьпекай асфальту“. Аднак і тут застаецца крытэрый творчасьці Багдановіча гэта — шуканьне красы. Места для Багдановіча роднае, ён пазнаў, калі так можна сказаць, „душу места“. І, дзякуючы гэтаму, Багдановіч у маляваньні места — адзіны. Пасьля рэволюцыі, калі паўстала цэлая плеяда беларускіх поэтаў, мотывы места ў беларускай поэзіі знаходзяць шматлічных прадстаўнікоў. Аднак, места іх — гэта места, якое перарадзілася пасьля вайны й рэволюцыі. Перад усім паўстала нацыянальна-сьведамая работніцкая кляса, паўстала мястовая беларуская інтэлігэнцыя. У часы, калі жыў і тварыў Багдановіч, аб такім месьце, як цяпер, аб месце беларускім, няма мовы.

У „Вянку“, у нізцы вершаў „Места“, мы знаходзім цэлы цыкль вершаў, аналіз якіх дасьць нам магчымасьць зразумець Багдановіча, як песьняра места. Багдановіч, чулы на прыгожасьць, ня можа памінуць прыгожасьці места:

У грудзі кволыя запала
Дачка каменьняў, места, мне.
Пачую я тэй іскры жала
І верш аб месьце з сэрца мкне.

Гэты ўступ да цыклю вершаў „Места“ вельмі напамінае сваім настроем верш: „Ой, чаму я стаў поэтам ў нашай беднай старане“. І тут мы натыкаемся на проблему псыхолёгіі творчасьці Багдановіча, якая зусім не парушана ў беларускай літэратурнай крытыцы. Гэта адно з цёмных мейсцаў, калі мы захочам разумець Багдановіча. Багдановіч, як ведама, быў ад 17-ці гадоў хворы на сухоты. Заўсёднае пачуцьцё сваёй хворасьці адбілася яскрава на яго творчасьці. Дашукацца гэтага пачуцьця, зразумець прычыны павароту ў апошнія гады свайго жыцьця да народнае творчасьці (?!) і інш —гэта заданьні крытыкі.

У Багдановіча, паміма агульна-характэрнай рысы ў вершах аб месьце, г. з. паміма шуканьня красы, места можна дзяліць на старадаўнае й сучаснае Багдановічу. Вільня займае пачэснае мейсца ў нізцы вершаў „Места“. У Вільні быў Багдановіч адзін раз. Жывучы ўвесь час на чужыне, Багдановіч лятуцеў аб Беларусі. І тут, у лятуценьнях, адгулялі вялікую ролю казкі й апавяданьні бабкі Багдановіча. Дзякуючы ім, Багдановіч рысаваў Беларусь у сваім ваабражэньні, як „зачарованы край“, як старонку надзвычай чароўную. Гэтыя акалічнасьці ўплылі як на вершы аб месьце, так і на цэлы рад іншых вершаў. Вільня паказалася Багдановічу надзвычай цікавай і зрабіла на яго вялікае ўра-

жаньне. Ня дзіва! Бальмонт і Брюсов таксама захапліваліся Вільняй. У ёй ёсьць нейкія павевы мінуўшчыны. Сама Вільня зьяўляецца вельмі маляўнічай. Гэта — асобны тып места. Ходзячы па вуліцах Вільні, якія маюць у сабе шмат старасьвеччыны, Багдановіч успамінаў старую Беларусь, якой у „Вянку“ адведзена спэцыяльна нізка вершаў „Згукі Бацькаўшчыны“ і „Зачарованы край“.

„Па загаду бурмістра ўсё, як належа;
Зачынілі ўжо вокны, згасілі вагні...
Варта вулкай прайшла...

У маляваньні „старадаўнае“ Вільні Багдановіч умее паказаць сапраўднасьць мінуўшчыны, унікнуць у „дух мінуўшчыны“. Гэтую здольнасьць, бязумоўна, Багдановіч вырабіў сьвядома. Багдановіч перадусім сьвядомы свае працы тварэц. Ен ведае, што толькі верш „выгартаваны з сталі“ можа прамовіць да сэрцаў. („Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей“).

Другое места ў Багдановіча — гэта места сучаснае яму. Усюды ён шукае красы, усюды шукае формы, у якую ён мог-бы выліць свой духовы зьмест, эстэтычныя вартасьці. Ен здалёка стаіць ад руху места, калі й апісывае яго. „О, горада чароўныя прынады!“ — кліча ён з ironіяй. У маленькіх, няпрыкметных абразкох ён знаходзіць глыбокі філёзофскі сэнс. Багдановіч у беларускай літэратуры, як Словацкі ў польскай, поэт—філёзоф. З гэтага боку трэба адзначыць верш „Сеў хлопчык каля вулічнага ганку“. Гэтая задуменнасьць, здольнасьць развагі тлумачыцца хіба хворасьцю поэта. У іншых вершах Багдановіча места жыве разам з яго думкай („У бубны дахаў вецер б‘е“, „Ад сьпекі дышуць дахі і асфальт“, „На вулках места ноч глухая“ й інш.). Багдановіч у сваіх вершах задуменна-паважны; ён прыслухоўваецца да „стогну тэлеграфнага стаўба“, ён удумываецца ў сэнс людзкога руху й т. д.

Перадчасная сьмерць спыніла працу Багдановіча, яго творчасьць ня суцэльная, ня поўная, „недаказаная“. Места ў Багдановіча найбольш дакончанае.

# Нашы песьняры

**М. М.**

* * *

Паветра запахла вясьняным.
Спацеўшы кіселіцца сьнег.
Да сонца з грудзей нястрымана
Ірвецца і радасьць і сьмех.

Вясёла, вясёла, вясёла!...
Вясьнянаю раньню я п'ян.
Ня помню ні суму, ні гора, —
Ня помню ні болі, ні ран.

Я сёньня ў жыцьці закаханы,
Асьвечаны біскам вясны,
Гатоў цалаваць пад парканам
Кусочак абсохшы зямлі.

У сіняе неба над вёскай
Узьвіўся-б, каб скрыдлы былі.
І ў песьні-б з жаўронкам расплёскаў
Запал ўвесь юнацкай душы.

16. III 30 г.

* * *

Неба зноў сіняе, сіняе...
Звонак напеў жаўрука.
Згіньце ўсе мары агідныя,
Псуўшыя лёс мужыка.

Шэрыя стрэхі заплакалі.
Сонца у сьлёзах цьвіціць.
Мы ўжо накланялісь ўсякаму —
Трэба і нам цяпер жыць.

Лёд пасінеў — быццам квашаны —
Хутка пайдзе крыгалом.
Столькі ўжо часу і сілы патрачана...
Годзі! з вясной ажывём!

*  *
*

Гаснучым, соўнечным сьветам
Шыбы у вокнах гараць.
Вербы над вулкай прыветна
Ціха вячэрню шумяць.

Думкі хварбуюцца кволым.
Час, калі хочацца мрой...
Хочацца зьліцца з прасторам,
Зьліцца з сусьветам душой.

Гора, сумленьні і мукі, —
Шэрыя будні жыцьця, —
Таюць ў мелёдыі гукаў,
Змроку, вясны і вятра.

23. III. 30.

## МАЛАДЫМ ПЕСЬНЯРАМ.

Наша мэта — сонца,
Мы жывём — агнём
І па ўсей старонцы
Пракліч вядзём.

Нас такіх ёсьць многа,—
Многа маладых.
Клічам перамогу
Мы да хат курных.

З багны на дарогу
Выйдзем, як адзін.
Гэй! прастор шырокі!
Гэй! Вітай нас сінь!

Мы з балот вяковых,
Мы — цямры сыны—
Ў шумных песьнях новых
Рвемся да вясны.

Нам ня страшны буры,
Нам ня страшан гром.
Над старонкай хмурай
Веснашум пяём.

Сонца — наша мэта.
Мы жывём — агнём.
Новую мы гэта
Беларусь куём.



# Кароткія фалі.

Ад 9 да 13 красавіка ў Вільні была наладжана кароткафалёвая выстаўка.

Жывем у часох, якія адзначаюцца перадусім шпаркім разьвіцьцём тэхнікі і, як консэквэнцыя гэтага разьвіцьця, шпаркім тэмпам працы. Цяжкія паваенныя варункі вымагаюць інтэнсыўнай і прадуктыўнай працы. Амэрыканскі тэмп і арганізацыя працы стаўляюцца, як прыклады. Амаль ня ў кожнай галіне прамысловасьці амэрыканцы стаяць на першым мейсцы, а бабка Эўропа насьледуе амэрыканскія здабычы тэхнікі.

У галіне катодных лямпаў амэрыканцы маюць таксама свае заслугі. Шаснаццаць гадоў таму амэрыканец Лянгмуір дадумаўся да павялічэньня мала дасканальнай пустаты з даволі вялікай, адносна, пазасталасьцю газаў. Павялічэньнем пустаты створаны падставы сучаснай катоднай лампы, якой выклікана такое шалёнае разьвіцьцё бяздротавай камунікацыі.

Першыя досьледы над кароткімі фалямі рабіліся амэрыканскімі аматарамі й выказалі іх прыдатнасьць для камунікацыі.

Катодная лямпа зрабіла магчымай радыётэлефонію й радыёфонію. Засяг прыймачоў („адбёрнікаў") быў павялічаны. Застасаваная да кароткіх фаляў у значнай меры спрыяла іх разьвіцьцю. Сумліўна, ці без катоднай лямпы было-б магчыма разьвіцьцё кароткіх фаляў.

Чаму кароткія фалі цяпер так модныя й ахвотна ўжываюцца ня толькі аматарамі, але й у гандлі й прамысловасьці?

Кароткія фалі маюць тую цэнную адзнаку, што толькі нязначная іх частка расходзіцца ўздоўж паверхні зямлі, якая наагул ёсьць ворагам электрамагнітных фаляў і глытае іх. Вялікая частка энэргіі, высланай у відзе кароткіх фаляў, адрываецца ад паверхні зямлі, праходзіць у гары слаі атмасфэры, адбіваецца там, як-бы промень сьвятла ад люстра, і вяртаецца йзноў на паверхню зямлі. Дзякуючы таму, што значную частку дарогі кароткія фалі праходзяць здалёк ад паверхні зямлі, дзе яны свабодныя ад аслабляючых яе ўплываў, ня трацяць амаль нічога з сваей энэргіі — што йзноў выяўляецца ў іх вялікім засягу. Ад часу, калі пачалі ўжываць у тэхніцы кароткія фалі, перасталі йстнаваць на зямлі вялікія адлежнасьці. Найвялікшая адлежнасьць між двума пунктамі на зямлі мае каля 20.000 км. Адлежнасьць гэтая можа быць здабыта ўжо аматарскім кароткафалёвым надаўчым апаратам, невялічкім з выгляду й займаючым мала мейсца. Розьніца між даўгафалёвай і кароткафалёвай

надаўчымі станцыямі надзвычай вялікая. Там—магутныя машыны, вялізарныя антэны й будынкі, часта спэцыяльныя электроўні, — усё цаны некалькіх дзесяткаў або й сотак тысячаў злотаў, часта нават і даляраў. Тут — невялічкая скрынка, цаны некалькіх сотак злотаў.

Нязвычайная ашчаднасьць матэр'ялаў і танная эксплёатацыя кароткафалёвых станцыяў спрычынілася да застасаваньня іх у публічнай камунікацыі.

Сьвет патрабуе штораз, то больш разгаліністай камунікацыйнай сеткі. Для гэтае мэты будуюцца таксама радыёстанцыі, але выключна кароткафалёвыя. Некаторыя з іх прадзначаны спэцыяльна для кірункавай камунікацыі, іншыя для рознакірункавай.

Радыёфонічныя станцыі ня могуць зьмясьціцца на вызначаных ім межах. Ужываньне тае самае фалі для працы некалькіх станцыяў ёсьць толькі паўсродкам. Ужо цяпер частка станцыяў перадае свае праграмы аднachасна на даўгіх і кароткіх фалях. Разьвіцьцё тэлевізыі зробіць неабходным вызначэньне новае порцыі фаляў.

Большасьць кароткафалёвых станцыяў працуе на фалях 15—50 мэтраў. Паяс 50 — 150 ня так густа абсаджаны й можа быць ужыты для радыёфонных або тэлевізыйных станцыяў дзяржаўнага засягу. Часта для аматараў-слухачоў радыёфону няясна справа „умяшчэньня“ вялікай колькасьці станцыяў у такім малым паясе на кароткіх фалях. „Калі я ў маёй шасьцёхлямповай нэўтрадыне маю перашкоды з аддзяленьнем Харкава (1680 м.) і Кёнігсвустэргаўзэн (1648,3 м.)“, разважае такі аматар, „то якім цудам на гэтых самых трыццацёх і некалькі мэтрах можна зьмясьціць соткі ўзаемна неперашкаджаючых сабе станцыяў?” Справа вельмі простая: ня трэба мерыць фалі на мэтры, толькі на кілёцыклі. Прыймаючы скорасьць сьвятла на 300.000 км. на сэк., дзелячы 300.000.000 на даўжыню фалі ў мэтрах, атрымаем „цыкль“ ці пэрыоды на сэк. Прыстаўка „кілё“ (так як і ў кілёграмах) азначае тысячу й замяшчае тры нулі. А, значыць, Ленінград працуе на фалі 1000 мэтраў 300.000.000 : 1000 — 300.000 пэрыодаў ці 300 кілёцыкляў.

Прыйманьне кароткіх фаляў мае тую прыемную адзнаку, што амаль што ня зусім вольны ад атмосфэрычных трэскаў, якія вельмі даюцца ў знакі пры сярэдніх і даўгіх фалях і зьяўляюцца зморай рад'эты.

Летам, калі прыйманьне на даўгіх фалях ня зусім добрае, прыйманьне кароткіх фаляў робіць прыемнасьць.

Ня будзем тут гаворыць, што чуем на кароткіх фалях. Разгледзім толькі, як чуецца. Возьмем прыкладам Давэнтры. Галосьнікавае прыйманьне (odbiór głośnikowy) на даўгіх фалях вымагае чатырох-пяцёхлямповага прыймача. Гэтую

самую праграму, пераданую на долі каля 25-мэтраў чуем на разгалосьнік двух, найбольш трохлямповы прымач.

Пры кароткіх фалях спасьцерагаем цікавыя зьявішчы: часта чуем станцыю далей ад нас знаходзячуюся галасьней, чым бліжэйшую. Зьявішча гэтае палягае на праходжаньні фаляў пераважна праз адбіцьцё ад верхніх слаёў атмасфэры.

Прыйманьне заморскіх станцыяў, г. зн.: Амэрыкі, Аўстраліі і т. д. магчыма толькі на кароткіх фалях. Аматар слушна можа гардзіцца тым, што чуе ў сябе ўсё, што дзеецца на канцы сьвету. Дзеля гэтага трэба будаваць кароткафалёвыя пры́ймачы. Для аматара, што любіць „калупацца“, будзе аказыя выказаць свой спрыт і канструкцыйныя здольнасьці. Для аматара—слухача будзе кароткафалёвы прыймач крыніцай рэкордаў далёкага прыйманьня „галасоў са сьвету“. Не адзін так зацікавіцца, што захоча сам пагутарыць з калегай на фалях этэру й... зробіцца кароткафалёўцам.

## *Х. І.* Бунт

I.

Сягоньня асабліва балюча-востра, сумна-шчымліва прамовіў да яго факт разьедзеных лёгкіх. Ці напеўнасьць вясеньняга вечару, ці тысячы ваганькоў-зорачак, што загараліся ў шыбінах вокнаў, — навеялі ў сэрцы тужлівасьць? Нячутна-устрывожана ўскалыхнуліся струны тугі й пасыпаліся іскрамі няясных імкненьняў. Ціха-таёмна шамраць лісты. У гарадзкім садзе сонечнымі гукамі, зьвінячымі перамогай, вітае вясну аркестр. Радасна, па маёваму, бурна сыплюцца буйныя погукі, як вішнёвы цьвет сыплюцца на брук, шыбаюць у неба, пяшчотна лашчаць душу. Вясьнянкай загарэлася места. Каскады электрычнасьці паляцелі ўздоўж вуліцаў. Пачалі клікаць кудысь, у нязьведана-недасяжныя далечы, цудоўныя рэклямы. Вогненасьцю пажара занялася сумуючая змрочнасьць.

„Я памру, я хутка памру“ — кліча нейкая квяцістая, жаласная туга ў Сялыгі. Струны голасна скрадзяцца. Рвуцца бурныя акорды. Далёкая, бязклопатна-сьветлая да-

леч дзяцінства лье вясьняным дажджом, сыпле залатым градам пяшчотныя шэпты...

— Лёня! Лё-ня! — раздаецца ў лесе.

Шумяць ціха-пудка, сонна-соладка стромыя сосны. Ад узьлесься разьліўся сонечным мёдам шнур залатасьпеючых жытоў. Зьзяючая, заснуўшая задуменнасьць лета.

— Лё-ня!...

Гэта кліча яна. Хай пашукае.

І раптам робіцца цягуча-цяжка, холадна. Дрыжыкі прабягаюць на сьпіне ў Сялыгі.

— Я памру! Божа мой! Я памру?!...

Горач заліла сэрца й падкацілася сьціскаючым крыкам пад горла. Устрывожаныя думкі паймчаліся на выперадкі, рвануліся спалохана, дакрануліся — абмылі сэрца. „Супакойся, супакойся“... угаварывае сябе Сялыга й хоча ўслухацца ў музыку. Але сэрца Сялыгі енчыць балюча, пяе аб няведамых муках. Навакола вагні... май. А думкі яго крычаць, бунтарна, усегалосна, грымуча. Чаму іх ня чуюць і не глядзяць на яго, ня дзівяцца; так голасна нешта абрываецца ў яго. Сялыга як-бы ўтуліўся ў сваю постаць, схаваўся сам у сябе. І быццам гэта не ён сядзіць на лаўцы, а вялікае, утуленае цярпеньне. І не яго вочы ўглядаюцца, а сусьветныя, жахлівыя, натхнёна-гарачыя вочы мільёнаў сухотнікаў. Тых, што прыйшлі й з нявінна, бязьмерна-шчымлівай усьмешкай адходзяць. Сялыга ўжо іншы, Сялыга... вось гэты. Той малады, з здаровымі лёгкімі, з пружкімі лыдкамі, недзе далёка, за шэрай, ліпкай імглой.

Сягоньня неяк па новаму замільгацела іскрыстае места. Новыя шумы пачуў ён. Нейкія несьвядома-уяўныя, няясныя шумы. І здалося ўсё нейкім казачным сном, нечым пераждытым, сасьнёным. І ня змог ён знайсьці цьвёрдага, бліскуча выражанага разуменьня сваіх мук.

## II.

Не жалею, не зову, не плачу, —
Все пройдет, как с белых яблонь дым.
С. Есенин.

Сялыга задыхаўшыся спыніўся на сходах, як-бы нешта разважаючы прыжмурыў вочы. Матнуў галавой і пайшоў на гару. Вастрожным мрокам дыхнуў на яго даўгі карыдор студэнскае бурсы. У канцы яго, недзе ў чорнай глыбіні, ліўся няпрыветнай жоўцю ліхтарык. Сялыга, хапаючы з прагай паветра, падыйшоў да пакою № 3 й застукаў. Ня было ніякага адказу. У рэшце пачулася, як заскрыпелі пружыны ложка й нейкі заспаны голас крыкнуў: „Валяй!“. Сялыга адчыніў дзьверы й увайшоў у маленькі пакойчык. Было цёмна й толькі праз вакно віднелася недзе далёка, за дахамі дамоў, ледзяная сінь гаснучых змрокаў. Шэры

попел сыпаўся ў далі ўсё гусьцей і гусьцей. На вуліцы туманілісь у прыветна дражнячыя змрокі вагні. Электрычны ліхтар кінуў жоўтую паласу сьвятла на падлогу. Жоўтая пляма. На ложку нехта пазяхаў нарасьпеў:

— Ха... ааа...а!

— Чарняк?—клікнуў Сялыга.

— Ен самы. Здароў, брат! — адазваўся заспаны Чарняк і ў пацёмках працягнуў руку. А я, брат, somnum, somni... таго. Ня спаў учора...

— А я вось цягаўся. Сумна неяк...

— Гэта ўсё вынікі... гм...—зафілёзофаваў Чарняк, пасьля схапіўся, як-бы злавіў нейкую важную думку й ціха неяк, таёмна прамовіў: „Сумна, брат, і мне, жыцьцё наша такое. Вайна, рэвалюцыя. Выкідышы мы—вось што! Дзе ты сілы прыложыш... І вось—п'еш... Што, выпіў-бы?

— А выпіў-бы сёньня—сказаў дрыжача Сялыга. Эх, усё роўна, хай гінуць рэшткі здароў'я, хай гора зальлецца...

— Выпіў-бы!? Я-б таксама выпіў-бы! Няма толькі за што... Але—выдумаем нешта! Распранайся... Чарняк замоўк, нібы выдумываючы спосабы здабыцьця грошаў. Сялыга ня думаў, толькі чуў трывожна, як сіпіць нешта ў грудзёх. Зашыпела лямпа. У пакоі разьліўся хваравіты сьвет і застыў на твары Сялыгі. Вачом кінулася нязьлічаны раз студэнская маемасьць: кнігі, кавалак хлеба на стале, табак, у расчыненым чэмадане ляжалі нейкія паперы й брудная бялізна. На сходах пачуліся нейкія галасы.

Тс—прыслухаўся Чарняк. Браво! Браво! — закрычаў ён праз хвіліну з усяе моцы й пабег да дзьвераў. У расчыненых дзьверах з поўцемры карыдору масыўна вырысоўвалася яго постаць.

— Тамаш! Каб ты скіс!

У дзьверы ўваліліся Тамаш і нейкі малады студэнт.

— Цірда-цірда-цірда-цірда—

запяяў па вясковаму Тамаш, а студэнт ва ўвесь твар сьмяяўся за плячыма Тамаша й сыгналізаваў Чарняку й Сялызе, што „не напуста“.

— Браво, Шаляпін!—крыкнуў Чарняк.

— Трэба толькі горла прамачыць.

Пакой ажывіўся. Сялыга ўсьміхаўся. К чорту ўсіх дахтароў? Ен сягоньня п'е! Адна прыемнасьць засталася... Піць! Піць! Заліць сум, той мучымы сум, выкінуць яго!

— Грошы ёсьць — сьвята для нашага брата — казаў Тамаш.

У сінім ад папірос паветры пахнула дымам, селядцамі й вясной, што ўрывалася праз адчыненую фортку.

(Працяг у наступным нумары).

# Куток матэматыкі.

Спэцыяльны націск, які кладзецца ў нашых школах на дыскусыю квадратнага трыскладу, а перадусім частае нецямленьне гэтае дыскусыі вучнямі пабудзіла нас прывесьці прыклад лёгкага рашэньня задач на дыскусыю. Усё рашэньне палягае на распрацоўцы 4-х пунктаў. Абсалютна кожную задачу на дыскусыю квадр. трыскладу можна рашыць гэтым спосабам. Графічную інтэрпрэтацыю можна лічыць другім спосабам рашэньня задачы. У пададзенай ніжэй намі задачы графічнае рашэньне даволі цяжкое дзеля таго, што выэлімінаваны парамэтр прадстаўляе сабой дроб. Для гуманістаў графічная інтэрпрэтацыя неабавязкова.

---

## ЗАДАЧА НА ДЫСКУСЫЮ.

Куля, радыуса $r$, перасечана плошчай прастападнай да дыямэтра AB у адлежнасьці x ад пункту A і наступна збудованана куля, дыямэтра, роўнага адлежнасьці цэнтра першай кулі ад плошчы сячэньня й датычнай да гэтай плошчы. Адносіны плошчы кола сячэньня да паверхні датычнай кулі, або наадварот, роўны $m$. Знайсьці $x$?




## УКЛАДАНЬНЕ РАЎНАВАНЬНЯ.

1) $m = \frac{\Pi CE^2}{4\Pi \left(\frac{Eo}{2}\right)^2} = \frac{CE^2}{Eo^2}$

2) $Eo = r - x$

3) $CE^2 = x\,(2r - x)$

4) $m = \frac{x\,(2r - x)}{(r - x)^2}$;

$$(m + 1)\,x^2 - 2r\,(m + 1)\,x + mr^2 = o$$

## ДЫСКУСЫЯ.

I. Вызначаем межы для x:

$$o \leq x \leq 2r$$

II. Знаходзім варунак магчымасьці рашэньня задачы. Ведаем, што варункам істнаваньня сапраўдных каранёў ёсьць:

$$\Delta \geqslant o.$$

$$\Delta = 4r^2 (m+1)^2 - 4.(m+1) mr^2 \geqslant o$$

$$m + 1 \geqslant o; \quad \boxed{m \geqslant -1}$$

Калі парамэтр m будзе большы—1, раўнаваньне наша будзе мець два сапраўдныя карані; калі парамэтр m будзе роўны — 1, наша раўнав. будзе мець адзін падвойны карэнь. Разважым цяпер, ці гэтыя карані ляжаць у даных граніцах для x, ці не.

Дапушчаем, што два карані ляжаць у даных межах для x. Тады маем:

$$O \leq x, \ldots x_2 \leq 2r$$

Лічбы 0 і 2r ляжаць вонках каранёў і дзеля гэтага $f(o) > o$ і $f(2r) > o$. Лічба 0 ляжыць злева й дзеля гэтага яна менш за сярэдняе арытмэтычнае $(x_0)$; 2r ляжыць зправа й дзеля гэтага яно больш за $x_0$.

Такім чынам, мы атрымалі адзнакі, па якіх мы лёгка пазнаем: ці 2 карані ляжаць у даных граніцах для x, ці не.

III. 1) $f(o) > o$; $mr^2 > o$; $\boxed{m > o}$

2) $f(2r) > o$; $mr^2 > o$; $\boxed{m > o}$

3) $o < \frac{2r(m+1)}{2(m+1}$; $o < r$; споўнена без усялякіх засьцярог, бо $r > o$ заўсёды.

4) $2r > \frac{2r(m+1)}{2(m+1)}$; $2r > r$; няроўнасьць споўнена.

Пароўнываем цяпер атрыманыя ўсе варункі для m:

$$\left.\begin{array}{l} m \geqslant -1 \\ m > o \\ m > o \end{array}\right\}$$

$m > o$ .......................... 2 карані

Атрыманы з параўнаньня варунак $(m > o)$ абыймае ўсе варункі адносна m Калі $m > o$, два карані заўсёды будуць ляжаць у даных граніцах для x.

Шукаем карані, калі $m = o$.

Падстаўляем $m = o$ ў нашае раўнаваньне. Маем:

$$x_1 = o; \quad x_2 = 2r.$$

Бачым, што гэтыя карані адпавядаюць жаданым граніцам.

Канчальна: $m \geqslant o$ .......................... 2 карані.

IV. Разгледзім выпадак, калі адзін карэнь ляжыць у даных граніцах для x. Тады заўсёды павінна быць: $f(o) \cdot f(2r) < o$, бо, калі $x_2 < o < x_1 < 2r$, або, калі $o < x_1 < 2r < x_2$, заўсёды маем адну лічбу паміж каранямі ($x_2 < o < x_1 \mid x_1 < 2r < x_2$), а другую лічбу вонках каранёў. Лічба, якая знаходзіцца між каранямі дае $f(x) < o$; лічба, якая ляжыць вонках каранёў, дае $f(x) > o$. Множыва іх будзе заўсёды адемнае.

$$m^2 r^4 < o \text{..................}\text{абсурд.}$$

Бачым, што гэтая няроўнасьць немагчыма, а гэта нас павучае, што нашае дапушчэньне ня мае мейсца.

## ГРАФІЧНЫ СПОСАБ РАШЭНЬНЯ.

Каб рашыць задачу графічна, трэба выэлімінаваць парамэтр.

$$m = \frac{2rx - x^2}{(x-r)^2}$$

I. Дасьледжваем цягласьць функцыі. Дзеля гэтага назоўнік прыраўніваем да нуля.

$$(x-r)^2 = o;\ x-r = o;\ x = r$$

Падставіўшы $x = r$ у назоўнік, маем лічнік $\infty$

Гэта нас павучае, што функцыя наша перарыўная.

II. Развaжаем, ці даная функцыя перасякае вось x—оў, ці не. Ведаем, што калі лінія перасякае вось x—оў, то ардыната (m) = о;

$$o = \frac{2rx - x^2}{(x-r)^2};\ 2rx - x^2 = o;\ \frac{x_1 = o;\ x_2 = 2r}{\text{два карані.}}$$

Гэта нас павучае, што крывая перасякае вось x—оў у двух пунктах.

III. Разглядаем, ці крывая перасякае вось y — оў, ці не.

$$\text{абцыса } (m) = o; \quad m = \frac{2r\,0 - 0^2}{(0-r)^2} = \frac{0}{r^2} = 0$$

Бачым, што крывая прасякае вось y — оў.

IV. Азначаем граніцы для m, калі $x \longrightarrow \pm\infty$

$$\lim \frac{2rx - x^2}{(x-r)^2} = \frac{x^2\left(\frac{2r}{x} - 1\right)}{x^2\left(1 - \frac{r}{x}\right)^2} = \frac{\frac{2r}{\pm\infty} - 1}{1 - \frac{r}{\pm\infty}} = \frac{-1}{1} = -1$$

V. Азначаем min. і max. нашай функцыі; тады $\Delta > 0$; $\boxed{m > -1}$

Min. m............ — 1.

Вялічыні на x няма ($x = -r^2$), а гэта нас навучае, што й Min.—няма.

ВЫКРЭСЬЛЕНЬНЕ.




# Літэратурны Суд.

22/III адбыўся ў гімназіі літэратурны суд, зладжаны вучнямі VIII клясы, над Мартінам Ідэнам, героем повесьці Джэк Лёндона, пад загалоўкам „Martin Eden". Судзіў суд прысяжных, зложаны з 6-ці асоб, пад старшынствам гр. А. Луцкевіча. Абвінавачвала падсудзімага прокуратарская лава, складзеная з к. к. Галяка й Сакалова; баранілі адвакаты: калежанка Гур'янава і к. к. Засім, Рудніцкі, Тумаш. Як сьведкі для выясьненьня справы былі пакліканыя: Морс Рут-Патомская, Ліза Коноль-Залкінд, Брысэндэн-Кунцэвіч і Дэйсон Джоэ—Рак-Міхайлоўскі. Пасьля даволі ўдачных і рэчовых прамоваў з боку прокуратуры і адвокатуры, і пасьля кароткай рэплікі абодвух старон, былі сконкрэтызаваныя наступныя чатыры пункты абвінавачаньня:

1) Ці вінават М. І. у тым, што свае сілы й здольнасьці скіраваў выключна на літэратурную творчасьць, бачучы ў ёй шлях да зьдзейсьненыя сваіх ідэалаў?

2) Ці вінават у тым, што пайшоў па шляху індывідуальнае барацьцы, а ня зьліў сваіх сілаў з вызвольным сацыяльным рухам працоўных?

3) Ці пасьля бліскучае перамогі стан духовы М. І. быў нармальны?

Адносна першага пункту ўнявіннілі Марціна Ідэна 4-мя галасамі, адносна другога 4 - 2, адносна 3-га 4—2.

Адным словам—Марцін Ідэн быў апраўданы.

Трэба сказаць, што мы, моладзь, не павінны браць прыкладу з учынкаў М. Ідэна, бо яны памылковыя, але, з другой стараны, М. Ідэн, маючы свой уласны сьветагляд і, будучы глыбака пераконаным у праўдзівасьці сваіх поглядаў на жыцьцё, быў з сваім сумленьнем і розумам у парадку. Вымагаць ад чалавека, каб ён паступаў нязгодна з сваім сумленьнем і розумам, было-б несправядлівасьцю, ідучаю ў разрэз з нашымі аснаўнымі сучаснымі паняцьцямі аб індывідуальнай свабодзе кожнага чалавека.

Гэты прысуд акажацца зусім справядлівым, калі мы сабе прыпомнім закон грамадзкага жыцьця, што кожны чалавек зьяўляецца ў большай ці меншай ступені гадунцом сваёй асярэдзіны. **В. Т.**

---

# Народная творчасьць.

Божа мой. На вуліцы скрыпкі граюць, Божа мой,*)
Кароль дачкі не пускаіць.
Стала яна ў яго прасіціся:
— Мой татачка, мой родненькі,
Пусьці мяне на вулку гуляці,
Да я прыду ранюсенька.
Ужо на дварэ сьвет белы, зара,
Каралёвай дачкі з гульбы няма.
Ужо ў вёсцы абедаюць,
Каралёва дачка з гульбы йдзець.
На ёй шаты сьцёрты, зьмяты,
Руцьмяны хепчык з галоўкі зьняты.
— Мая дачушка, я цябе страчу.
— Ня траць мяне ў пятнічку,
А траць мяне ў суботку.
Пахавай мяне пад цэркаўкай.
Пасадзі на мне чырвонну розу,
Будуць дзевачкі ў цэркаўку ісьці,
Будзіць розачка цьвісьці.
Будуць дзевачкі розачку рваць,
Будуць мяне ўспамінаць.

Запісаў у в. Рабунь, Вялейскага пав. ад С. Чобат.

**Міх. Шчасны**

---

*) Кожны радок пачынаецца і канчаецца словамі: „Божа мой", як характэрная адзнака пятровых песень.

* * *

Крапіўка мая жучлівая,
Сьвякроўка мая журлівая,
Журыла мяне, як дзень, так ноч.
Ідзі нявестка ад мяне проч,
Ідзі нявестка ў роўна поля
Ды стань нявестка пры дарозе,
Абярніся калінкаю,
Колінкаю - жарчэнькаю,,
Будзіць міленькі з ваёнкі ісьці,
Будзіць з калінкі дзівіціся.
Прышоўшы дамоў хваліціся:
„А матка, матка, я відзеў дзіва,
Я відзеў дзіва дзіўненькая —
Стаіць калінка жарчэнькая".
„Ай, сынку, сынку, вазьмі шабельку,
Вазьмі шабельку, зрубай калінку,
Зрубай калінку, хоць палавінку".
Сякануў ён раз - ціха стаіць,
Сякануў другі — сказалася,
Кроў палілася.
„Не сячы, мілы, я твая жана".
„Да хто-ж цябе тут пастанавіў?".
„Твая матка разумна была,
Яна-ж мяне пастанавіла,
Што да суседкі агню схадзіла,
Што із суседачкай загаварыла".

---

* * *

Ды заржы, заржы
Варанны мой кося,
Па полю гарсуючы,
Каб зачула, мая міла,
Вячэру гатуючы.
Ды каб зачула,
Цяжка ўздыхнула,
Жаласна заплакала.
— Куды, міленькі,
Чорнабрывенькі,
Ад мяне ўцякаеш?
Ля каго мяне, маладзеньку,
Ля каго пакідаеш?
— Пакіну цябе, мая міленькая,
Для Госпада Бога.
— Я не застануся, мой міленькі,
Паляту за табою.
Паляту к саду,
Ды зязюлькай сяду,
І буду кукаваці.

Запісаў М. Шчасны ў в. Рабунь, Вялейскага павету.

# Вучнёускі Гумар

— Ты думаеш, што „Саюз Літэратараў“ ня можа паўстаць?

— Хіба, калі запрасіць „літэратараў“ з „Шляху Моладзі“, бо бяз іх дык нічога ня выйдзе. Гэта такія заядлыя літэратары, што тэмпэратуры ў Верхаянску пасьвячаюць усю сваю часопісь.

———

Вучыцель: Колькі будзе два мінус два?

Вучань: Адзін!

Вучыцель: Не! Калі, напрыклад, ты маеш 2 пернікі й сьпярша зьясі адзін, а пасьля другі, што застанецца ў кішані?

Вучань: Акрушыны, пане вучыцель.

———

— Тата, дай мне трохі грошы, хоць-бы якіх 50 гр.

— На што табе яны?

— На што? Трэба! Бо калі на мяне нападуць бандыты й крыкнуць: „Жыцьцё ці грошы!“—што тады будзе?

———

— Вельмі табе баліць зуб?

— Вельмі!

— Вось, каб гэта быў мой, дык я даў-бы вырваць'

— Я таксама даў-бы вырваць, каб гэта быў твой.

———

— Што хочаш Янка: ірысу ці ляндрынак?

— І ірысу, і ляндрынак, але мяне мама прыслала мыла купіць...

———

— Цяпер ты, сынок, ходзіш у школу, пасьля пойдеш у гімназію, далёка табе да ўнівэрсытэту!

— Але-ж, татачка, унівэрсытэт так блізка ля нашай школы...

———

НА ЭКЗАМЕНЕ.

Прафэсар. — Пане кандыдат, што насамперш заўважываеце, як аглядаеце жэбры хвораму?

Кандыдат. — Ці баіцца ласкоткі...

# З жыцьця Наваградзкае Гімназіі.

**Пры Наваградзкай Гімназіі арганізуецца зоолёгічна-батанічны музэй.**

Зразумела, што аб вялікім музэі ня можа быць мовы, аднак справу музэю можна будзе ўсё-ж належна паставіць. Гэтаму памогуць шмат самі вучні, якія змогуць зьбіраць розныя экзэмпляры расьцін. Патрэба такога музэю даўно адчувалася й спробы заспакоіць гэтую патрэбу трэба шчыра прывітаць. Беларуская ніва яшчэ зусім неразгарана: ня маем мы дакладнага знаёмства свайго краю. Зоол.-бот. музей, бязумоўна, будзе першым паважным крокам у напрамку вывучэньня свайго краю тут, на Зах. Беларусі. Толькі трэба дружна ўзяцца за працу.

— На надовячы адбыўшыхся ваяводзкіх выперадках беларуская лыжварская дружына пры Наваградзкай Гімназіі ўзяла прыз.

— Пры Наваградзкай Гімназіі будуецца вучнёўская бурса. У будове прыймаюць удзел і самі вучні.

# ХРОНІКА.

Х У суботу, 1-га сакавіка вучнямі Віл. Бел. Гімназіі быў зладжаны спэктакль. Стаўляліся: „Пакой у наймы“ й „Зьбянтэжаны Саўка“. Гулялі вучні, апрача ролі Саўкі (гр. М. Сіняўскі). Гульня маладых артыстаў выпала наагул добра. Уражаньне ўва ўсіх было добрае. П. Касьцюкевіч у „Пакой у наймы“ побач з Татарынавічанкай (Даміцэля) згуляў найлепш. Перад усім выявіў ён здольнасьць учуцьця ў ролі. Можна было аднак у некаторых мейсцах выразьней перадаць пачуцьцё. Ня менш удала прайшла гульня Л. Будзькі, якая вельмі натуральна прадставіла „новую“ кватэрантку. Была-б заганай за ціхая гутарка, аднак на малую салю В. Б. Гімназіі яна была чутна здавальняюча. Вельмі добра згуляў свае кароценькія ролі Смаленскі (жабрак у „Зьбянт. Саўка“ й сторaж у „Пакой у наймы“). Татарынавічанка (Даміцэля, а пасьля Магрэта) згуляла найлепш. Як даўней, сьвежа й шчыра гуляў гр. Сіняўскі (Саўка). Мамэнты, як такія, калі Саўка ў спадніцы, выпэцканы ў сажу, садзіцца на яйкі й бядуе аб сваім палажэньні, выклікалі буры сьмеху.

Х У пятніцу 15.III г. г. а 7 г. увечары грамадзянінам Адольфам была прачытана лекцыя на тэму: „Значэньне мора“. Тлумачэньні адбываліся пры помачы цудоўных карцін. Лектар паказаў як мора, так і „жыхароў“, якія жывуць у моры.

✕ У суботу 22.III с. г. адбыўся літэратурны суд над Марцінам Ідэнам, галоўным героем повесьці Джэка Лёндана: „Марцін Ідэн“. Вучні былі вельмі зацікаўлены. Пачаўся суд а 5 гадзіне, закончыўся а 10 г. ўв.

✕ У аўторак 15.IV с. г. пасьля ўсіх лекцыяў адпушчаны вучні на Вялікодныя сьвяты.

✕ Матуральныя экзамены ў В. Б. Г. вызначаны на 7.V г. г. Пасьля пісьменых перарыў на два тыдні, пасьля чаго распачнуцца экзамены вусныя.

# Задачкі ?

7. Як ведама з гісторыі цар Ірад забіў 14.000 дзяцей. Ня так даўно вучоныя на тым мейсцы вялі раскопкі й знайшлі шмат чэрапаў і касьцей. Частка з іх была белымі, другая—чорнымі. Чые былі белыя косьці, а чые—чорныя?

8. Прачытайце нашу часопісь і адкажэце: Чаго найбольш у ёй ёсьць?

# Усячына.

## Жывучасьць сьлімака.

У большай частцы жывёлаў жыцьцё канцэнтруецца ў галаве. Дзеля гэтага, калі-б адняць гэтую важную частку цела, то жыцьцё жывёліны спыняецца. Толькі некаторыя пароды рыбаў: вугры й некаторыя блізкія да іх пароды пасьля адняцьця ад іх галавы жывуць далей у працягу некалькіх мінут. Яшчэ далей у гэтым напрамку йдуць сьлімакі; яны напамінаюць міт аб лернэйскай гідры, у якой, калі адрубаць ёй галаву,—зараз-жа вырастала другая. Звычайнаму вінаграднаму сьлімаку можна сьмела адрэзаць галаву, не пялохаючыся яго гэтым забіць. Аднойчы бачылі, як салямандра адарвала сьлімаку галаву; сьлімак з вялікай скорасьцяй схаваўся ў сваю ракавіну. У першы момант думалі, што ён памёр, але к зьдзіўленьню ўбачылі, што ён праз некалькі мінут вылез і пры помачы іншых прысмактаваю-

чыхся ворганаў, прысмактаўся к расьліне. Сьлімака ўзялі разам з расьлінай да хаты. Наглядаючы за сьлімаком, убачылі, што пасьля двух месяцаў тое мейсца, дзе была галава, зацягнулася тонкай белаватай скуркай, якая ўсё грубела і цямнела, пакуль не стала цёмнасіняга колеру. Гэтае ператварэньне патрабавала часу ў тры месяцы. Затым на адпаведным месцы стварылася маленькая чорная плямка, якая з кожным месяцам рабілася большай, і па ўплыве 18 месяцаў, сьлімак меў новую галаву, якая адзначалась ад першай меншымі рожкамі. Пасьля заўважылі тое самае і на іншых экзэмплярах сьлімакоў.

## Электрычны ўдар.

Падобна таму, як 'дагэтуль прыходзілася чуць аб сонечным удары, цяпер ведама, што можа быць удар электрычны, які паўстае пры помачы моцнага сьвятла электрычнай дугі. Сказанае адносіцца толькі да вельмі сільнага электрычнага току, які адпавядае 100,000 сьвечак. У 10 мэтрах ад крыніцы такога сьвятла праз нейкі працяг часу чуецца моцны боль, але цяпла ня чуваць. Адзін з маладых асыстэнтаў параўнавае гэта з здарыўшымся з ім улету сонечным ударам, але бяз чуцьця гарачыні. Адзін вучоны заўважыў, што пасьля двух, трох гадзін, нават пры пераменным электрычным току, чуецца гарачыня на шыі, твары й асабліва на лобе, скура робіцца чырвонага ці медна-чырвонага колеру, паяўляецца ў вачох яркае, жоўтае, суб'ектыўнае сьвятло. Тэмпэратура зусім не павялічваецца, нават у адлежнасьці пяцёх мэтраў ад крыніцы сьвятла, між тым, як сказаныя зьявы паяўляюцца ўжо на адлежнасьці дзесяцёх мэтраў. Ці выклікаюцца гэтыя зьявы чырвонымі і жоўтымі сьветавымі праменьнямі, ці т. зв. хімічнымі г. ё. фіалетавымі, сінімі й ультрафіалетавымі гэтага вучоны гэты не паясьняе

Выдавец: Літэратурна-Гістарычны Гурток.

Рэдактар:
Рэдакц. Калегія: Ул. Рудніцкі, М. Шчасны, К. Акіньчыц.

Адказны Рэдактар: дыр. Р. Астроўскі.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.

# Зьмест